“Народную Волю” выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 48 (4300)

15 чэрвеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля



СТОП-КАДР




## Лукашэнку ў Маскве сустрэў воўк Забівака

*Учора на маскоўскім стадыёне “Лужнікі” адбылася цырымонія адкрыцця чэмпіянату свету па футболе, пасля якой прайшоў першы матч турніру паміж зборнымі Расіі і Саудаўскай Аравіі.*

Графік здачы газеты не дазволіў нам аператыўна паведаміць пра яго вынік, але гэта падаецца зусім не галоўным, бо наперадзе яшчэ цэлы месяц футбола сусветнага ўзроўню. Час пагаварыць пра галы, ачкі, секунды, якасць гульні той ці іншай каманды яшчэ будзе, таму сёння мы засяродзімся на каляфутбольных падзеях, якія суправаджалі і будуць суправаджаць гэтае першынство.

### Іспыт для Пуціна

Вялікі спорт даўно стаў часткай вялікай палітыкі. І пра гэта яскрава сведчыць склад кіраўнікоў дзяржаў, якія адгукнуліся на запрашэнне Крамля прыехаць у Маскву на адкрыццё чэмпіянату. Паводле інфармацыі прэс-сакратара прэзідэнта Расіі Дзмітрыя Пяскова, на адкрыццё першынства прыбылі прэзідэнт Руанды **Поль Кагаме**, кіраўнік Балівіі **Эва Маралес**, прэм’ер-міністр Лівана **Саад Харыры**, прэзідэнт Парагвая **Марыя Абда Бенітэс**, Панамы – **Хуан Карлас Варела**, наследны прынц Саудаўскай Аравіі **Мухамед ібн Салман Аль Сауд**, старшыня прэзідыума Вярхоўнага народнага сходу КНДР **Кім Ён Нам**.

Прыляцелі ў Маскву і кіраўнікі краін постсавецкай прасторы – прэзідэнт Казахстана **Нурсултан Назарбаеў**, Малдовы – **Ігар Дадон**, Таджыкістана – **Эмамалі Рахмон**, Узбекістана – **Шаўкат Мірзіёеў** і іншыя.

Лідараў еўрапейскіх краін, якія асуджаюць знешнюю палітыку Расіі, на адкрыцці першынства не было. Не выключана, што нехта з іх з’явіцца ў Расіі на працягу месяца – пакуль будзе цягнуцца першынство. Так, не выключыла магчымасці свайго візіту ў Расію канцлер Германіі Ангела Меркель. А вось каго дакладна не варта чакаць у Расіі, дык гэта палітыкаў з Англіі. Яны адкрыта байкатуюць першынство. Здаецца, менавіта прысутнасць ці адсутнасць еўрапейскіх лідараў у Расіі стане своеасаблівым іспытам для Уладзіміра Пуціна і яго палітыкі.

### «Удачы братам-расіянам!»

Учора днём самалётам прыбыў у Маскву і кіраўнік Беларусі **Аляксандр Лукашэнка**. Сышоўшы з трапа, Аляксандр Рыгоравіч, што называецца, носам к носу сутыкнуўся з воўкам Забівакам – талісманам чэмпіянату свету-2018. У імправізаваным футбольным паядынку прама на лётным полі Лукашэнка ваўка перамог. Затым, узяўшы футбольны мяч у рукі, Лукашэнка пакінуў на ім свой аўтограф, а таксама пакінуў невялікае пажаданне: “Удачы братам-расіянам!”.

### Пра секс, грошы і курэй…

Гучных скандалаў напярэдадні адкрыцця чэмпіянату свету не было. А вось кур’ёзы ёсць. Так, заўзятарам зборнай Нігерыі, якія прывыклі наведваць матчы сваёй зборнай у кампаніі курэй, забаранілі праносіць птушак на стадыён у Калінінградзе, дзе іх каманда правядзе матчы групавога этапу. Як гэтая забарона адаб’ецца на выніках нігерыйскай зборнай – паглядзім.

А вось бразільскія футбалісты прыехалі на чэмпіянат свету з установкай ад урача каманды: секс толькі па графіку! “Дзяўчатам і жонкам футбалістаў будзе забаронена знаходзіцца разам са спартсменамі штодня. Спатканні будуць дазваляцца толькі ў вольныя ад гульняў дні. Для сустрэч будуць адведзены спецыяльныя памяшканні”, – сказаў доктар каманды.

Калі сексуальнае жыццё футбалістаў зборнай Бразіліі пад пільным кантролем, то ў расійскіх дзяўчат падчас чэмпіянату свету яго можа ўвогуле не быць. Прынамсі, з замежнікамі. Так, дэпутат Дзярждумы, старшыня камітэта па пытаннях сям’і, жанчын і дзяцей Тамара Плятнёва заявіла, што падобныя паводзіны прыводзяць да нараджэння дзяцей у няпоўных сем’ях. “Мы сваіх дзяцей павінны нараджаць. Я не нацыяналіст, але тым не менш…” – сказала дэпутат.

Пакінем у спакоі фізіялогію і скажам колькі слоў пра больш матэрыяльнае. А канкрэтна – пра грошы. Вядома, што каманда-пераможца чэмпіянату свету атрымае ад ФІФА грашовую прэмію ў памеры 38 мільёнаў еўра. Акрамя таго, у кожнай зборнай ёсць свая матывацыя. Так, тыя ж бразільцы ў выпадку перамогі на турніры атрымаюць па мільёне долараў кожны.

Дарэчы, перавагу гэтай зборнай аддаюць і букмекеры. Шанцы землякоў легендарнага Пеле расцэньваюцца 1 да 5. Далей ідуць зборныя Германіі і Іспаніі. Але, як вядома, прагнозы – справа няўдзячная, таму глядзім, балеем, перажываем!

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

СЛОВА ФЕМІДЫ

## Вярхоўны суд пакінуў у сіле прыгавор публіцыстам «Рэгнума»

*14 чэрвеня Вярхоўны суд вынес рашэнне па апеляцыйнай скарзе Юрыя Паўлаўца, Дзмітрыя Алімкіна і Сяргея Шыпценкі. Скарга засталася без задавальнення, а прыгавор – пяць гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на тры гады – у сіле.*

– Прыгавор пакінуць без змен, апеляцыйную скаргу – без задавальнення, – зачытаў рашэнне суда старшыня на працэсе суддзя Вярхоўнага суда Уладзімір Давыдаў, паведамляе nn.by.

Падчас першага пасяджэння ў Вярхоўным судзе 12 чэрвеня асуджаныя прасілі адмяніць прысуд і ўсе абвінавачанні з іх зняць. Скаргу разглядалі трое суддзяў Вярхоўнага суда.

Пракурор Андрэй Савановіч падчас свайго выступлення папрасіў суд пакінуць прысуд без змен, а апеляцыйную скаргу – без задавальнення.

СУД ДЫ СПРАВА

## 4 гады калоніі з пазбаўленнем звання маёра

*У Кобрыне закончыўся гучны судовы працэс, які цягнуўся з мінулага года*

На лаве падсудных апынуўся старшы ўчастковы Кобрынскага РАУС **Сяргей Куляшоў**. Яго абвінавачвалі ў перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў. Пацярпелы, жыхар вёскі Беразно Кобрынскага раёна **Анатоль Глыцюк,** сцвярджаў, што міліцыянер зламаў яму нагу.

Характэрна, што на апошнія судовыя пасяджэнні, якія аднавіліся на гэтым тыдні, супрацоўнікі Кобрынскага РАУС прыходзілі ледзь не ў поўным складзе. Да суда абвінавачаны ўчастковы міліцыянер быў затрыманы, а калі пачаўся працэс – з лістапада мінулага года – пад хатнім арыштам.

А сутнасць гісторыі такая.

У жніўні 2017 года, са слоў пацярпелага Анатоля Глыцюка, ён вяртаўся з Брэста з пахавання і ўжо ішоў па вёсцы, як каля яго спыніўся міліцэйскі аўтамабіль. З машыны выйшаў участковы С.Куляшоў. Слова за слова, і міліцыянер ударыў вяскоўца па назе з такой сілай, што той упаў… На Глыцюка склалі адміністрацыйны пратакол за знаходжанне ў грамадскім месцы ў нецвярозым выглядзе і адпусцілі дадому. Калі праз дзень ён звярнуўся ў бальніцу, то медыкі дыягнаставалі ў яго пералом нагі. 9 дзён Анатоль Глыцюк правёў у бальніцы, яшчэ тры месяцы насіў гіпс. Сваякі вяскоўца настаялі, каб ён напісаў заяву на міліцыянера, што той перавысіў свае паўнамоцтвы, і пачалі тэлефанаваць на розныя «гарачыя лініі». 30 жніўня 2017 года міліцыянера Сяргея Куляшова затрымалі.

У лістападзе пачаліся судовыя слуханні, а прысуд быў вынесены 13 чэрвеня. Суддзя **Пётр Цімашэнка** цалкам падтрымаў пазіцыю дзяржабвінавачання, і ўчастковага міліцыянера асудзілі на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, без канфіскацыі, з выплатай пацярпеламу 3000 тысяч рублёў кампенсацыі, з пазбаўленнем права займаць пасады прадстаўніка ўлады ў органах МУС тэрмінам на 5 гадоў. Таксама Куляшоў пазбаўлены спецыяльнага звання маёр міліцыі.

Прысуд Кобрынскага раённага суда яшчэ не ўступіў у законную сілу, у Сяргея Куляшова ёсць 10 дзён, каб абскардзіць гэтае рашэнне ў вышэйшай судовай інстанцыі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Пушкин и битва с дураками

В день рождения Пушкина руководство Организации Объединенных Наций и руководители дипломатических миссий при ООН совершили показательный шаг. Прочли стихи Александра Сергеевича и вывесили соответствующие ролики в интернете.

Представитель Республики Беларусь, бывший помощник президента Республики Беларусь Валентин Рыбаков прочел стихотворение «Клеветникам России». Для тех, кто не в курсе. Стихотворение Пушкиным написано после того, как в парламенте Франции герой борьбы за свободу США и демократию во Франции маркиз де Лафайет выступил в поддержку повстанцев, с оружием в руках отстаивавших идею возрождения Речи Посполитой. Той самой, в которую входили и наши земли. Кстати, большинство повстанцев и жили на территории современной Беларуси, и воевали здесь, и были вынуждены потом эмигрировать.

Пушкина понять можно. Он был верноподданным Российской империи, принадлежал к многовековому российскому дворянскому роду, а потому ожидать, что он будет вести себя по-другому в данной ситуации – кроме как напишет гневную отповедь Лафайету, требовавшему свободу тем, кого он называл поляками, было бы трудно. Правда, Александру Сергеевичу возразил не менее родовитый князь Петр Андреевич Вяземский: «Пушкин в стихах своих «Клеветникам России» кажет им шиш из кармана. Он знает, что они не прочтут стихов его, следовательно, и отвечать не будут на вопросы, на которые отвечать было бы очень легко, даже самому Пушкину. За что возрождающейся Европе любить нас? Вносим ли мы хоть грош в казну общего просвещения? Мы тормоз в движениях народов к постепенному усовершенствованию, нравственному и политическому. Мы вне возрождающейся Европы, а между тем тяготеем к ней. Народные витии (…) могли бы отвечать ему коротко и ясно: мы ненавидим, или, лучше сказать, презираем вас, потому что в России поэту, как вы, не стыдно писать и печатать стихи, подобные вашим». Хорошо ответил, точно и не оскорбительно.

Эту историю Валентин Рыбаков может не знать. Не филолог он, не пушкинист. Но другую историю – недавнюю – Валентин Борисович Рыбаков помнить должен. В 2015 году, когда он работал заместителем министра иностранных дел, в Могилеве был установлен памятник Пушкину. Причем на постаменте его были выбиты строки из этого самого стихотворения Пушкина. Фактически гимн всемогуществу Империи был воспет посреди земли, где гибли борцы с Империей. Разумеется, это вызвало возмущение небезразличных граждан, и мэрия Могилева, допустившая бестактность с установкой соответствующего монумента, бестактность свою исправила: памятник Пушкину оставила, а вот цитату удалила.

Я понимаю, что уроженцу Томска Валентину Рыбакову историческая география, как говорится, по барабану. Но русский язык он, как мне кажется, понимать должен. И во время чтения пушкинских строк вслух он транслирует все-таки смыслы, а не только звуки. И какой же смысл он вкладывает в эти, например, строки:

*Иль нам с Европой спорить ново?*
*Иль русский от побед отвык?*
*Иль мало нас? Или от Перми до Тавриды,*
*От финских хладных скал до пламенной Колхиды,*
*От потрясенного Кремля*
*До стен недвижного Китая,*
*Стальной щетиною сверкая,*
*Не встанет русская земля?..*

То есть, конечно, если бы он прочел эти стихи внукам, укладывая их в колыбельку, или друзьям на дружеской вечеринке, или даже – хрен с ним! – в гостях у полномочного представителя России в ООН господина Небензи – слова не скажу. Это его частное дело. Но выбор стихотворения, размещенного в интернете от имени полномочного представителя Республики Беларусь в ООН – это уже не частное дело. Это политический акт, совершенный от имени государства. От имени министра Владимира Макея, пытающегося наладить дипломатический диалог с Европой. От имени президента Александра Лукашенко, заявившего о многовекторности белорусской политики во время «Минского диалога». Наконец, от имени каждого гражданина Республики Беларусь.

Интересно, Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Беларусь Валентин Рыбаков отдает себе в этом отчет? Или его коллеги в беседе с журналистами будут пожимать плечами и говорить:

– Ну, дурость сделал, бывает…

Бывает. Во время Олимпиады другой чиновник «сделал дурость» – прошел в составе белорусской делегации с российским флагом. С рук сошло. Получил подарок. Но это все-таки был не посол, а пешка. А тут вот – целый бывший помощник президента!

Я не против того, чтобы белорусские дипломаты проявляли знание российской поэзии. Но пусть они делают это умно. Прочел бы Рыбаков вслух, например, «Погасло дневное светило» или «Буря мглою небо кроет» – вопросов бы не было. Продемонстрировал бы хорошую память, прочитав наизусть «Медного всадника», – и Бог с ним! Но читать стихи, в которых поэт бросает вызов Франции и Польше, – это совсем не согласуется с современной внешнеполитической доктриной Республики Беларусь (!).

И главное: за эту глупость белорусского дипломата, и не только глупость, но и вопиющее бескультурье, – ибо если не глупость и бескультурье, то явный внешнеполитический демарш, на который Рыбакова никто не уполномочивал, – кто будет отвечать? Пушкин?

Да уж. Для кого – день рождения Пушкина. Для кого – день русского языка. А для меня – профессиональный праздник, воспетый Андреем Макаревичем:

*Сегодня самый лучший день!*
*Сегодня – битва с дураками!*

ПРАТЭСТ

## «Міністэрства культуры ва ўсім вінавата»

*Аўтар праекта зон аховы Курапатаў тлумачыць, дзе парушаны закон.*

Гісторык архітэктуры і рэстаўратар Вольга Кукуня разам з Таццянай Косціч распрацоўвалі праект зон аховы Курапатаў, які быў зацверджаны пастановай Міністэрства культуры №15 ад 12 мая 2004 года.

Менавіта гэтыя межы зон аховы парушыў забудоўшчык рэстарана «Поедем, поедим». У 2012 годзе гэта пацвердзілі Міністэрства культуры і Генеральная пракуратура. Але незаконныя пабудовы засталіся на месцы. Бо Міністэрства культуры вырашыла закон змяніць: у новым праекце яно зменшыла зоны аховы, якія зацвердзіла пастановай ад 1 снежня 2014 года. Так раней нелегальныя пабудовы рэстарана «Поедем, поедим» сталі легальнымі.

– Міністэрства культуры вінавата ва ўсім, – кажа Вольга Кукуня. – Я гэтую сітуацыю з рэстаранам увогуле не разумею. Зрабілі б яны на пару кіламетраў убок. Там жа хапае месца, каб пабудаваць рэстаран. Гэта наўмыснае дзеянне...

У праекце Кукуні–Косціч зоны аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці на адрэзку мяжы з рэстаранам складалі 150 метраў. У новым праекце яны зменшаны да 50 метраў.

Вольга Кукуня тлумачыць, што калі рабілі праект, то ўлічвалі відавыя пункты і ўмовы захавальнасці помніка. Паколькі на час распрацоўкі на гэтай тэрыторыі ўжо была заправачная станцыя, зрабілі шырыню 150 метраў. Калі б яе не было – шырыня зон аховы магла быць яшчэ большая.

– У нас і ў галаве не было, што хтосьці можа пабудаваць там нешта забаўляльнае, лазні, яшчэ нешта», – дзівіцца яна. І дадае: – Вялікую ролю ў апазнавальнасці гэтага комплексу іграюць крыжы. Чым раней ты іх бачыш, набліжаючыся да месца, тым мацнейшы вобраз. Я калісьці Бабін Яр праязджала ў Кіеве. Я не ведала, што ён там, але мяне кожны раз ахопліваў жудасны стан. І мы гэтым кіраваліся: лепшы відавы пункт, і каб проста так машыны не спыняліся там. Раней там і вогнішчы палілі, шашлыкі смажылі...

Вольга Кукуня яшчэ раз звяртае ўвагу на тое, што прадстаўлены імі праект быў зацверджаны цалкам і ён меў законную сілу.

### Тэрыторыя рэстарацыі на фоне курапацкіх крыжоў

Дзеянні Міністэрства культуры ў галіне рэстаўрацыі Вольга Кукуня ацэньвае як непрафесійныя.

– Глядзіце, 2012 год (*у якім Міністэрства культуры і Генеральная пракуратура зафіксавалі парушэнне заканадаўства.* – **Аўт.**). Цяпер 2018-ы. Што за гэты час Міністэрства культуры зрабіла? Дабівалася зносу гэтай пабудовы і пераносу ў іншае месца? Не! Гэтая арганізацыя займалася тым, каб перарабілі праект (*зон аховы.* – **Аўт.**). Займаліся тым, каб зрабіць горш і пакінуць тое, што было зроблена з парушэннем норм, – абураецца Вольга Кукуня.

Паводле яе слоў, нават калі было выяўлена парушэнне, забудову можна і трэба было перанесці. Зрабіць гэта, кажа яна, вельмі проста.

– Гэта ж не тое, каб знесці іх і спаліць. Усё разбіраецца, пераносіцца на новае месца па кальцавой. Там не так і шмат аб’ектаў харчавання, – кажа Вольга. – Усталявалі б усё гэта за два месяцы і ўжо кармілі б усю кальцавую. Але яны гэтага чамусьці не хочуць. Нейкая маніякальная ўпартасць… Я гэтага не разумею.

– Там жа не камень, не бетон, звычайныя бярвёны. У каго такая нянавісць да Курапатаў?! – задаецца пытаннем Вольга Кукуня.

**Аляксандра ДЫНЬКО.**
*(Радыё Свабода.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
15 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

РАКУРС

# «Сваім» – грошы з дзяржбюджэту, «чужым» – дулю…

*У краіне літаральна на ўсё не хапае грошай: на пенсіі, на льготны праезд для студэнтаў і пенсіянераў у грамадскім транспарце, на новае медыцынскае абсталяванне, на рамонт медустаноў і г.д. і г.д. У той жа час з дзяржаўнага бюджэту год за годам немалыя сродкі выдаткоўваюцца на грамадскія арганізацыі.*

*Якім дакументам санкцыянавана такое нахабнае выкарыстанне грошай падаткаплацельшчыкаў?*

*Хто вырашае, што Саюзу пісьменнікаў Беларусі, які ўзначальвае небезвядомы М.Чаргінец, дзяржава мусіць дапамагаць, а, напрыклад, другому Саюзу пісьменнікаў, альтэрнатыўнаму – не?*

*І чаму з 2,8 тысячы грамадскіх аб'яднанняў, зарэгістраваных у Беларусі, асобага стаўлення ад дзяржавы "заслужылі" адзінкі?*

Адказ на гэтыя пытанні вельмі простыя. Некаторыя грамадскія аб'яднанні трапляюць у спіс структур, на якія выдзяляюцца грошы з дзяржбюджэту ў адпаведнасці з указамі прэзідэнта.

Так, яшчэ ў 2006 годзе Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ ***"Аб некаторых пытаннях дзейнасці грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі"***, якім прадугледжваецца, пачынаючы з 2007 года, *"пры фарміраванні праекта рэспубліканскага бюджэту на чарговы фінансавы (бюджэтны) год вызначаць сродкі на дзейнасць Саюза пісьменнікаў"*. Дакументам нават вызначана, чым канкрэтна будзе дапамагаць дзяржава грамадскаму аб'яднанню – аплачваць працу работнікаў апарату праўлення саюза (у межах пяці штатных адзінак) і кіраўнікоў абласных і Мінскага гарадскога аддзяленняў арганізацыі, а таксама пакрываць выдаткі на транспарт, камандзіровачныя, камунальныя паслугі і паслугі сувязі. Дзяржава бярэ на сябе выдаткі, звязаныя *"з забеспячэннем матэрыяльна-тэхнічнай базы і правядзеннем мерапрыемстваў па прапагандзе мастацкай літаратуры"*. Акрамя таго, згодна з прэзідэнцкім указам, Саюз пісьменнікаў Беларусі атрымаў у арэнду памяшканне, транспарт, аргтэхніку сродкі сувязі і г.д. Дарэчы, за арэнду плошчаў у цэнтры Мінска на Фрунзе, 5 чаргінцоўскі Саюз пісьменнікаў плаціць па льготным каэфіцыенце, які складае 0,1% да базавай стаўкі арэнднай платы. Нагадаю: у так званым Доме літаратара некалі знаходзіўся Саюз беларускіх пісьменнікаў, але ўлады яго адтуль выкінулі. Пазбавілі і ўсялякай фінансавай падтрымкі. Вядома ж, з-за прынцыповай пазіцыі. Многія яго сябры ў штыкі ўспрынялі некаторыя дзеянні ўлад.

Але вернемся да праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі. Колькі канкрэтна грошай ідзе з дзяржбюджэту на яго дзейнасць, які, паводле апошніх дадзеных, аб'ядноўвае 613 чалавек (колькі з іх сапраўдных майстроў слова – лічыце самі)?

**2018 год – 297 тысяч 940 рублёў,**
**2017-ы – 286.905,**
**2016-ы – 248.152,**
**2015-ы – 228.755 рублёў**.

Калі камусьці гэтыя лічбы падаюцца не катастрафічна вялікімі (напрыклад, на выплату пенсій з бюджэту летась было выдаткавана больш за 740 мільёнаў рублёў, сёлета гэтыя лічбы ўвогуле могуць скласці 1,5 мільярда), то не трэба забывацца, што яшчэ немалую капейчыну атрымліваюць іншыя грамадскія аб'яднанні і ўсялякія структуры, напрыклад дзяржаўныя тэлеканалы. Вось толькі некалькі лічбаў.



Ілюстрацыйнае фота.

Так, у 2018 годзе з дзяржаўнага бюджэту будзе выдаткавана:

**Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі – 76 мільёнаў 750 тысяч 146 рублёў,**
**Міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мир" – 7.846.840,**
**тэлеканалу АНТ – 2.850.660,**
**«Сталічнаму тэлебачанню» – 1.935.813,**
**Беларускаму фізкультурна-спартыўнаму таварыству «Дынама» – 6.219.072,**
**Добраахвотнаму таварыству садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту РБ – 7.100.850 рублёў.**

Агулам гэта ўжо больш за 100 мільёнаў рублёў, альбо 50 мільёнаў долараў. Але ж у табліцы выдаткаў бюджэту ўзгадваюцца і іншыя грамадскія аб'яднанні і ўстановы, якія ва ўсім свеце не існуюць за дзяржаўны кошт. Напрыклад, страхавыя кампаніі альбо банкі.

І, нарэшце, ёсць яшчэ адно грамадскае аб'яднанне, якое шчодра фінансуецца з бюджэту краіны, – БРСМ. Маладзёжная арганізацыя атрымлівае не такія ўжо і малыя сродкі. Вось дзяржаўныя выдаткі апошніх гадоў на БРСМ:

**2018 год – 6 мільёнаў 808 тысяч 879 рублёў,**
**2017-ы – 6.201.468,**
**2016-ы – 6.246.767,**
**2015-ы – 5.038.408,**
**2014 год – 4.314.542 рублі.**

Грошы Беларускаму рэспубліканскаму саюзу моладзі з нашых падаткаў выдзяляюцца таксама ў адпаведнасці з указам прэзідэнта ***"Аб некаторых пытаннях дзяржаўнай падтрымкі грамадскага аб'яднання "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі"***. Прыняты ён быў у 2003 годзе, і перыядычна (у 2009-м, 2012-м, 2018-м) у дакумент уносяцца змены. Так, апошнім разам у адпаведнасці з прэзідэнцкім указам дзяржфінансаванне БРСМ падоўжана да 2020 года. З дакумента таксама вынікае, што і мясцовыя ўлады мусяць дапамагаць "камсамольцам", указам прадпісваецца *«бягучае ўтрыманне тэрытарыяльных камітэтаў ГА «БРСМ» ажыццяўляць за кошт сродкаў адпаведных мясцовых бюджэтаў»*.

ДАРЭЧЫ

## «Белая Русь» існуе на ўнёскі?

Нельга не заўважыць, што з дзяржаўнага бюджэту не фінансуецца праўладнае РГА "Белая Русь", якое афіцыйна заяўляе, што галоўным напрамкам сваёй дзейнасці лічыць забеспячэнне грамадскай падтрымкі палітыкі Аляксандра Лукашэнкі.

Улады любяць падкрэсліць, што "Белая Русь" – адно з самых масавых грамадскіх аб'яднанняў краіны (праўда, наколькі добраахвотна растуць яго шэрагі, як кажуць, пытанне рытарычнае) і, маўляў, арганізацыя сама сябе забяспечвае. Але ў БРСМ, напрыклад, членаў значна больш, чым у "Белай Русі", – паўмільёна "камсамольцаў" супраць 171 тысячы сябраў "Белай Русі", аднак Саюз моладзі не адмаўляецца ад дзяржаўнай падтрымкі ў выглядзе пералічэнняў бюджэтных сродкаў.

– *Наша арганізацыя існуе выключна за кошт унёскаў*, – сцвярджае бухгалтар "Белай Русі" **Жанна Тарарук**. – *За апошнія гадоў восем ні ад кога ні рубля не атрымалі, толькі членскія ўнёскі.*

***– Магчыма, унёскі вялікія?***

*– 0,3 працэнта ад даходу члена арганізацыі.*

***– Ад даходу ці зарплаты? Калі сябра "Белай Русі", напрыклад, прадасць кватэру, то мусіць пералічыць 0,3 працэнта ад здзелкі на рахунак арганізацыі?***

*– Ёсць пералік даходаў, якія абкладаюцца членскімі ўзносамі. Гэта выплаты за выканаўную працу.*

Дырэктар інстытута "Палітычная сфера" **Андрэй Казакевіч** лічыць, што ў заявах адносна самастойнага і незалежнага ад дзяржавы існавання праўладных арганізацый ёсць пэўная доля хітрыкаў.

– *Сапраўды, фармальна з бюджэту пералічэнняў "Белай Русі" няма*, – выказвае сваё меркаванне палітолаг. – *Але ёсць звесткі, што ў свой час арганізацыі фінансава дапамагалі дзяржаўныя прадпрыемствы і прыватныя структуры, ахвяравалі прадпрымальнікі, праўда, не ясна, як гэтая дапамога афармляецца: грошы ідуць на рахунак альбо проста перадаюцца наяўнымі?*

*Акрамя таго, трэба мець на ўвазе, што "Белая Русь" мае магчымасць выкарыстоўваць інфраструктуру дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў і гэта таксама можна лічыць фінансавым унёскам. Тыя ж з'езды арганізацыі праходзяць у Палацы Рэспублікі* (толькі адна гадзіна арэнды памяшканняў Вялікай залы палаца для правядзення мерапрыемстваў каштуе 1,5 тысячы рублёў. – **М.Э.**). *У той жа час праз вялікую арэндную плату іншыя грамадскія аб'яднанні, асабліва ў рэгіёнах, не могуць мець памяшкання і адпаведна юрыдычны адрас – а гэта ўжо прычына для адмовы ў рэгістрацыі. Таксама арганізацыі кшталту "Белай Русі" могуць выкарыстоўваць валанцёрскую сілу, асабліва падчас розных палітычных кампаній. І калі іншыя грамадскія структуры мусяць шукаць на такія рэчы сродкі, то праўладныя гэтай неабходнасці пазбаўлены.*

ПОГЛЯД

Рыгор СІТНІЦА, старшыня Саюза мастакоў Беларусі:

## «Дзяржава павінна дапамагаць творчым саюзам»

*Як да такога няроўнага стаўлення дзяржавы да грамадскіх арганізацый адносяцца кіраўнікі тых структур, якія пазбаўлены дзяржпадтрымкі?*

– Мы выжываем – не скажу, што лёгка, хутчэй – цяжка, толькі дзякуючы таму, што ёсць захаваная маёмасць, мастацкі камбінат і некаторыя прэферэнцыі з боку дзяржавы, – *кажа кіраўнік Саюза мастакоў* ***Рыгор Сітніца.*** – Я лічу, што для таго, каб існаванне было плённым, падтрымка ад дзяржавы павінна быць. Ва ўсялякім разе саюзам, якія ствараюць нацыянальную культуру, фарміруюць гісторыю нацыі, шмат робяць у сацыяльным плане. Пра такія саюзы дзяржава павінна клапаціцца. Вядома, што ў еўрапейскіх краінах грамадскія арганізацыі сумесна з дзяржавай досыць эфектыўна вырашаюць цэлы шэраг надзённых пытанняў.

Як гэтая дапамога можа выглядаць у нас? Хутчэй праз гранты, праз заказы, каб усё было празрыста. Гэта будзе і падтрымка, і рэальная справа, а не проста ўбуханне грошай невядома на што.

– На мой погляд, справа не толькі ў фінансавай падтрымцы адных і ігнараванні другіх, – *кажа старшыня Таварыства беларускай мовы* ***Алена Анісім***, – а ў тых палёгках, якія маглі быць зроблены абсалютна для ўсіх грамадскіх арганізацый. Таму што плаціць арэнду па камерцыйных коштах для арганізацыі, якая не мае права займацца камерцыйнай дзейнасцю, – гэта заведама ставіць яе ў вельмі цяжкія ўмовы. Напрыклад, ТБМ за арэнду невялічкага памяшкання і камунальныя паслугі плаціць у месяц каля тысячы еўра. У той жа час Саюз пісьменнікаў альбо БРСМ маюць ільготы. На мой погляд, гэта сведчанне таго, што дзяржава не зацікаўлена ў развіцці сапраўднай грамадскай супольнасці.

Думаю, было б някепска, каб у святле прапаноў аб папраўках у Закон аб дзяржаўна-прыватным партнёрстве дзяржава павярнулася тварам для грамадскіх арганізацый і дала ім некаторыя прэферэнцыі. Бо мы не можам мець свабоднага грамадства, калі грамадскія аб'яднанні, палітычныя партыі, рухі не будуць свабодна ажыццяўляць сваю дзейнасць і не будуць уключаны ў працэс дзяржаўнага будаўніцтва.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ДЫСКУСІЯ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

# Жыццё побач з Расіяй

### Тэзісы выступлення ў тэледэбатах «Жыццё побач з Расіяй»

### 4 чэрвеня 2018, Кіеў

Мы дыскутуем па трох асноўных пытаннях. Першае: ці могуць краіны, якія суседнічаюць з Расіяй, пачувацца ў бяспецы? Другое: разглядае Расія гэтыя краіны, як незалежныя, ці яны для яе – пратэктарат? І ўрэшце – нашы адносіны да Расіі.

У мяне няма ніякіх фобій, у тым ліку расійскай. Я не русафоб. Тое, што я пішу і кажу пра Расію, прадыктавана жаданнем бачыць яе не такой, якая яна ёсць сёння. Умоўна кажучы, не пуцінскай. Хоць праблема, вядома, глыбей. Расія такая, якая яна сёння ёсць, не таму, што такі Пуцін. Наадварот: Пуцін такі, бо такая Расія.

На пачатку дэбатаў па праблеме бяспекі краін, якія суседнічаюць з Расійскай Федэрацыяй, спытаемся: а ці адчуваюць сябе ў бяспецы яе грамадзяне? Народы, якія яе насяляюць? У бяспецы не ад знешняга ворага – ад самой Расіі?

Гістарычны досвед паказвае, што не. Столькі, колькі знішчыла Расія сваіх, не знішчылі ўсе разам узятыя чужыя.

Расія небяспечная найперш для самой сябе. А тое, што нясе небяспеку для сябе, небяспечнае і для іншых. Як міна, граната або вар'ят… І ўжо толькі па гэтай прычыне пачуваць сябе ў бяспецы побач з Расіяй немагчыма.

Трагедыя Расіі перакінулася з ХХ у ХХІ стагоддзе, бо ў ёй, у імперыі перыяду распаду, дасюль не скончылася грамадзянская вайна, якая вынікла з рэвалюцыі 1917 года. У гэтай вайне не перамаглі ні чырвоныя, ні белыя – і ў выйгрышы аказаліся шэрыя. І ў гэтай няскончанай грамадзянскай вайне, вынікам якой можа стаць самазнішчэнне, Расія вядзе яшчэ і знешнія войны.

Знаходзячыся ва Украіне, супраць якой Расія вядзе вайну, частку тэрыторыі якой яна захапіла, выдаючы захоп за вяртанне «исконно русских земель», нават некарэктна пытацца: ці разглядае Расія суседнія краіны як незалежныя дзяржавы? Відавочна, што не. Украіна для Расіі – пратэктарат. Як і Беларусь, якой яшчэ на пачатку прэзідэнцтва Пуціна было прапанавана ўступіць у склад Расійскай Федэрацыі. Прапанова дасюль не адменена. Больш за тое: праз палітыку цалкам залежнага ад Расіі беларускага кіраўніцтва Беларусь незалежная толькі фармальна. Рэальна яна не самастойная ні ў эканамічных, ні ў палітычных, ні ў вайсковых адносінах.

Адносіны да Украіны і Беларусі як да калоній – даўняя палітыка Расіі. Яшчэ ў XVIII стагоддзі Кацярына ІІ пісала Фрыдрыху ІІ, што Еўропа была б больш бяспечнай, калі б паміж Берлінам, дзе нарадзіўся Фрыдрых, і Пецярбургам, дзе правіла Кацярына, не было сталіц іншых дзяржаў. Гэта значыць, не было б Варшавы, Прагі, Кіева, Рыгі, Вільнюса, Мінска... Менавіта такую «бяспечную» палітыку ў дачыненні не толькі да Беларусі з Украінай, а і да ўсёй усходняй Еўропы праводзіць Расія на працягу трох апошніх стагоддзяў.

Ёсць два спосабы дзеянняў у адказ на такую палітыку. Адзін з іх, які дэманструе Беларусь, скіраваны на тое, каб задобрыць Расію. Ледзь што не так – скласці лапкі і круціць хвастом. Але што можа быць вынікам такіх палітычных «хітрыкаў»? Толькі каманда: «К ноге!» – і туфель лізаць.

Другі спосаб дэманструе Украіна. Гэта адкрытае супрацьстаянне імперскім памкненням Расіі, барацьба за незалежную дзяржаву. Такія дзеянні дорага каштуюць, але з іх і вынікае дарагое. Яны ўзвышаюць нацыю. Надаюць ёй адчуванне годнасці, робяць народ народам, дзяржаву дзяржавай. Яны напаўняюць ідэю незалежнасці зместам.

Спадзявацца на тое, што ў бліжэйшай перспектыве палітыка Расіі зменіцца, не выпадае. Свядомасць Расіі, ці іначай руская ідэя (у цяперашняй выяве «Русский мир»), – стагоддзямі нязменная. Колькі б рускае праваслаўе ні казала пра нейкую боскасць рускай ідэі, яна, як яе ні круці, упіраецца ў рэшце рэшт у самадзяржаўе. Пятроўскае, кацярынінскае, сталінскае, пуцінскае…

Адзін з маіх апанентаў сказаў, што выратаванне Беларусі і Украіны, увогуле ледзьве не ўсёй Еўропы – у знікненні Расіі. Я ў прынцыпе не прымаю ідэю выратавання праз нечае знікненне. Жыццё ратуецца жыццём. Яно не знікае, а змяняецца, і Расіі, каб не знікнуць, трэба змяняцца. Дык вось той, хто не падстройваецца пад яе імперскія, згубныя для яе самой памкненні, а супрацьстаіць ёй у гэтым, не толькі ратуецца сам, але і ёй дапамагае ўратавацца. Змяніцца, а значыць – выжыць. І калі-небудзь Расія скажа Украіне дзякуй за гэта. А можа быць, нават знойдзе ў сабе сілы, чаго ніколі яшчэ не рабіла, пакаяцца перад сваім народам і перад народамі-суседзямі.

ЧУЛІ?

## У Маскве адкрыўся Арт-цэнтр Андрэя Вазнясенскага

У Маскве на Вялікай Ардынцы адкрыўся Арт-цэнтр Андрэя Вазнясенскага. Знакаміты паэт сябраваў з Васілём Быкавым і Рыгорам Барадуліным, часта бываў на возеры Свіцязь і ў вёсцы Расна пад Брэстам, дзе старшынёй калгаса быў Уладзімір Бядуля ("лятаючы мужык" – паводле Вазнясенскага). Беларусі і беларусам паэт прысвяціў шмат сваіх твораў.

У новаадкрытым цэнтры наведвальнікі пабачаць самыя сучасныя мультымедыйныя тэхналогіі: тэлевізары на сценах паказваюць вынайдзеныя паэтам-шасцідзясятнікам "відэомы", зняўшы са сцяны навушнікі, можна праслухаць вершы ў непаўторным аўтарскім чытанні. Ёсць у цэнтры і ўласна музейны куток – кабінет Андрэя Вазнясенскага, якога Р.Барадулін назваў "рускай мовы вялікім прыгонным".

**Міхась ЗАГОРСКІ.**

УЧОРА

# У дырэктара БелаПАН Алеся Ліпая больш за 7 гадзін праводзіліператрус

*Санкцыю на правядзенне следчых дзеянняў падпісаў пракурор горада Мінска.*

Прадстаўнікі ДФР прыйшлі да Ліпая 14 чэрвеня прыблізна ў 7 гадзін. Ліпай адразу ж звязаўся з праваабаронцам Алесем Бяляцкім і да яго прыходу не адчыняў дзверы. Паводле слоў Бяляцкага, ён прасіў следчую групу ўзяць яго ў якасці панятога, але праваабаронцу ў гэтым было адмоўлена. У якасці панятых следчыя запрасілі работнікаў жыллёва-камунальнай службы.

Пасляператрусу Алеся Ліпая павезлі на допыт ва ўпраўленне ДФР КДК па Мінскай вобласці.

### З асабістай справы

*Алесь Ліпай – беларускі журналіст і паэт. Сузаснавальнік і кіраўнік Беларускага прыватнага агенцтва навін і інфармацыйнага партала «Беларускія навіны».*

*У 1988 г. стаў першым карэспандэнтам Радыё Свабода ў Беларусі. Напрыканцы 1980-х гадоў – удзельнік Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Працаваў карэспандэнтам, а потым рэдактарам аддзела навін у газеце «Знамя юности». У 1991 годзе вёў беларускамоўную старонку «Родны склон». У кастрычніку 1991-га стварыў незалежнае інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, якое з цягам часу перарасло ў інфармацыйную кампанію. З часу ўзнікнення БелаПАН – генеральны дырэктар кампаніі.*

*Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра.*

### Распачата крымінальная справа

Кіраўнік беларускага незалежнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Алесь Ліпай падазраецца ва ўхіленні ад выплаты падаткаў.

*«У дачыненні да яго распачата крымінальная справа па ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса Беларусі (ухіленне ад выплаты падаткаў)»*, — паведаміў афіцыйны прадстаўнік Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю Беларусі **Юрый Кардымон.**

НУ І НУ!

## У Міёрах мужчына спрабаваў спусціць колы ў міліцэйскай машыны

Здарэнне адбылося каля плошчы Памяці загінуўшых барацьбітоў, піша газета "Міёрскія навіны".

Падчас інцыдэнту мужчына, паводле слоў міліцыянтаў, гучна крычаў і нецэнзурна лаяўся. Ён быў нецвярозы.

За хуліганскі ўчынак яго аштрафавалі на 49 рублёў (дзве базавыя велічыні).

